# Голас Радзімы

№ 40 (2130)
5 кастрычніка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Працэс дэмакратызацыі савецкага грамадства закранае сёння самыя розныя бакі яго існавання. Не абышоў ён і такую «далікатную» сферу, як узаемаадносіны дзяржавы і царквы, якая згодна з Савецкай Канстытуцыяй, аддзелена ад дзяржавы. Цяпер стала зразумелым, што, і не парушаючы асноўных прынцыпаў сацыялізму, варта супрацоўнічаць з такой установай, як царква. Тым больш, што савецкія законы абвяшчаюць і гарантуюць кожнаму чалавеку свабоду сумлення, веравызнання, выканання рэлігійных абрадаў. Так, царква не «адмерла» ў нашай атэістычнай краіне, яна можа стаць саюзнікам дзяржавы ў справе культурнага і духоўнага адраджэння змучанага гістарычнымі перыпетыямі грамадства. І вось нібы ілюстрацыя да новых павеваў — адкрыццё Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровіцах, дзе 42 маладыя семінарысты прыступаюць да заняткаў. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт.

НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця семінарыі; дар мастака Арлена КАШКУРЭВІЧА — літаграфія з выявай Ефрасінні Полацкай.

Фота С. КРЫЦКАГА.





МІЖНАРОДНАЯ ТРЫБУНА

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА БССР

У венскім цэнтры кангрэсаў «Аўстрыя» працягвае работу чарговая 33-я сесія Генеральнай канферэнцыі Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ). У яе рабоце прымаюць удзел дэлегацыі звыш ста дзяржаў свету, у тым ліку СССР, Беларускай і Украінскай ССР.

Разглядаюцца важнейшыя праблемы, звязаныя з ажыццяўленнем практычнага кантролю за нераспаўсюджваннем ядзернай зброі, паглыбленнем супрацоўніцтва дзяржаў у мірным выкарыстанні атамнай энергіі, забеспячэннем бяспечнага развіцця ядзернай энергетыкі.

На сесіі выступіў кіраўнік дэлегацыі Беларускай ССР, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР А. Сцепаненка. Пазітыўныя перамены ў свеце, адзначыў ён, ствараюць спрыяльныя перадумовы для разгортвання шырокага і актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Беларуская ССР высока ацэньвае ўклад МАГАТЭ ў гэтую важную для ўсяго чалавецтва справу, выступае за далейшую актывізацыю выканання праграм тэхнічнага супрацоўніцтва, праграм па ядзернай энергетыцы, ядзернай і радыяцыйнай бяспецы. Пра тое, наколькі сур'ёзныя гэтыя праблемы, наколькі цяжкія вынікі іх нявырашанасці, нагадваюць выпадкі аварый на атамных электрастанцыях. Адным з самых сур'ёзных такіх напамінкаў стала аварыя на Чарнобыльскай АЭС, вынікі якой у значнай меры закранулі Беларускую ССР.

Далей кіраўнік дэлегацыі БССР прывёў некаторыя даныя нанесенай шкоды і расказаў пра меры па ліквідацыі вынікаў аварыі, якія прымаюцца рэспублікай. Плошча зямель у сучасны момант з рознай ступенню забруджання радыенуклідамі, адзначыў ён, складае 18 працэнтаў усіх сельскагаспадарчых угоддзяў (звыш 1,5 мільёна гектараў). На спецыяльным дыспансерным уліку ва ўстановах аховы здароўя рэспублікі знаходзіцца 173 тысячы чалавек, у тым ліку 37,4 тысячы дзяцей. Працягваюцца работы па зніжэнню дозы знешняга і ўнутранага апраменьвання. На сесіі Вярхоўнага Савета БССР у ліпені гэтага года быў разгледжаны праект Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990 — 1995 гады.

Наша рэспубліка аказвала і працягвае аказваць агенцтву палітычную, навукова-тэхнічную матэрыяльную падтрымку ў ажыццяўленні яго праграм, накіраваных на мірнае і бяспечнае выкарыстанне атамнай энергіі, умацаванне рэжыму нераспаўсюджання ядзернай зброі, падкрэсліў у заключэнне А. Сцепаненка.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ





**Вядзецца сяўба азімых у саўгасе «Чырвоны сцяг» Баранавіцкага раёна. Тут выкарыстоўваецца першакласны пасяўны матэрыял жыта сартоў «пухаўчанка» і «верасень», у полі працуюць вопытныя механізатары. А ў калгасе «Зара камунізму» Докшыцкага раёна заканчваюць продаж ільнотрасты. На яе падыманне і пагрузку выйшлі амаль усе: механізатары, паляводы, жывёлаводы, пенсіянеры. Ад такой арганізацыі справы выйграюць і гаспадарка, дзе адышлі ад заклікаў і лозунгаў, і людзі, якія цяпер зарабляюць у дзень да 40 і больш рублёў. Лён у гэтым годзе вырашчаны на славу. Кожны гектар у сярэднім дае па 5,2 цэнтнера льнасемя і па 12 цэнтнераў валакна. За кошт гэтага калгас плануе атрымаць даход каля мільёна рублёў.**

**НА ЗДЫМКАХ: уборка льну завершана; сяўба азімых у саўгасе «Чырвоны сцяг».**

ПАБРАЦІМСКІЯ КАНТАКТЫ



**Новае развіццё атрымліваюць дружалюбныя сувязі Мінска з англійскім горадам-пабрацімам Нотынгемам. Па ініцыятыве Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і пры ўдзеле рэспубліканскага Камітэта абароны міру пачата работа па стварэнню фотавыстаўкі «Мінск—Нотынгем». З гэтай мэтай у Мінск прыбылі фатографы Нотынгемскага цэнтра мастацтва Клер Орын і Аджай Бхіка. Яны пачалі здымкі ў горадзе. Госці пабываюць на прадпрыемствах, сустрэнуцца з мастакамі і студэнтамі, наведаюць адну з бальніц і Мінскую гімназію, а таксама Хатынь і Курган Славы. Затым адбудзецца рабочы візіт у адказ беларускіх фотакарэспандэнтаў у Нотынгем.**

**НА ЗДЫМКУ: Аджай БХІКА (злева) і Клер ОРЫН у Мінску.**

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ Ж. МАРШЭ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

Генеральны сакратар Французскай кампартыі Жорж Маршэ, які знаходзіўся ў Савецкім Саюзе па запрашэнню ЦК КПСС, наведаў Мінск. Госць і суправаджаючыя яго асобы пабывалі на мемарыяльным комплексе «Хатынь», да Вечнага агню якога ўсклалі кветкі.

У час наведання ВДНГ БССР увагу лідэра французскіх камуністаў прыцягнулі ўзоры прадукцыі, з якімі рэспубліка паспяхова выходзіць на міжнародны рынак.

У калгасе імя Гастэлы Мінскага раёна адбыўся грунтоўны абмен думкамі з працаўнікамі і падаркі на шырокаму спектру праблем жыцця беларускай вёскі.

Ж. Маршэ сустрэўся з першым сакратаром ЦК КПБ Я. Сакаловым. Размова працягвалася гутарка, што праходзіла ў атмасферы ўзаемнага інтарэсу і адкрытасці. Атрымаўшы вычарпныя адказы на пытанні аб месцы камуністаў рэспублікі ў працэсах, якія адбываюцца ў эканоміцы, культуры, грамадскіх адносінах, Ж. Маршэ падкрэсліў, што падрабязны абмен думкамі дапамог больш наглядна і канкрэтна ўявіць ход перабудовы, яе рухаючыя сілы, а таксама цяжкасці на гэтым шляху. На прыкладзе Беларусі, адзначыў ён, відаць, што сацыялістычная ідэя не страціла сваёй стваральнай сілы. Яна застаецца асновай у дзейнасці кіраўнікоў, яна падтрымліваецца і шырокімі слаямі насельніцтва Беларусі. Гэта добра відаць на шматлікіх прыкладах развіцця дэмакратыі, павышэння ролі чалавека як галоўнай дзеючай асобы ў эканоміцы, палітыцы, духоўнай сферы.

Генеральны сакратар ФКП сустрэўся са Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцеем.

НОВАЯ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

## АДБЫЛАСЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Мінску адбылася канферэнцыя заснавальнікаў новай грамадскай арганізацыі — Асацыяцыі садзейнічання ААН Беларускай ССР (АС ААН БССР). Ініцыятарамі яе стварэння выступілі АН БССР, Беларускі рэспубліканскі савет прафесіянальных саюзаў, Белдзяржуніверсітэт імя Леніна, Гандлёва-прамысловая палата БССР, Саюз журналістаў БССР, Беларускі камітэт абароны міру, іншыя грамадскія арганізацыі і творчыя саюзы.

Асноўная мэта асацыяцыі — знаёміць грамадскасць рэспублікі з дзейнасцю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і ўдзелам у яе рабоце Беларускай ССР, актыўна падтрымліваць імкненне народаў да ўзаемаразумення, сумесных дзеянняў у імя міру, раззбраення, узаемавыгаднага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах. Асацыяцыя таксама ставіць сваёй задачай супрацоўніцтва з Сусветнай федэрацыяй асацыяцый садзейнічання ААН і яе членамі ў іншых краінах.

Канферэнцыя разгледзела і адобрыла ў цэлым статут АС ААН БССР, выбрала яе праўленне. Старшынёй праўлення выбраны народны дэпутат СССР, акадэмік АН БССР У. Лабуноў. Установачая канферэнцыя прыняла адпаведную рэзалюцыю, а таксама пісьмо генеральнаму сакратару ААН.

СТВОРАНЫ КААРДЫНАЦЫЙНЫ САВЕТ

## «ЧАРНОБЫЛЬ І ДЗЕЦІ»

Так называецца каардынацыйны савет грамадскасці, створаны пры Беларускім рэспубліканскім аддзяленні Усесаюзнага дзіцячага фонду імя Леніна. У яго складзе народныя дэпутаты СССР, вучоныя, урачы, пісьменнікі, журналісты, прадстаўнікі іншых творчых саюзаў, нефармальных аб'яднанняў. Узначаліў савет дацэнт Белдзяржуніверсітэта Генадзь Грушавой.

Галоўнай мэтай дзейнасці савета з'яўляецца аб'яднанне і каардынацыя намаганняў грамадскасці па аказанню неабходнай дапамогі дзецям, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі, а таксама тым, хто жыве ў радыеактыўна забруджаных раёнах.

Матэрыяльнай асновай дзейнасці савета стануць добраахвотныя ўзносы арганізацый і грамадзян на рахунак рэспубліканскага аддзялення Дзіцячага фонду імя Леніна № 707 з паметкай «Дзеці Чарнобыля». Першыя пераводы на рахунак, у тым ліку і з-за мяжы, ужо паступілі.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# ЗЕМЛЕТРАСЕННІ, ЯКІЯ МОЖНА ЧАКАЦЬ

Апошнім часам рэспубліканская прэса закранула даволі незвычайную для Беларусі тэму — мясцовых землетрасенняў. Наколькі яны небяспечныя для Беларусі?

— На працягу часу, за які ёсць гістарычныя звесткі аб зямных хваляваннях, — гаворыць дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР акадэмік АН БССР **Р. ГАРЭЦКІ**,—на тэрыторыю Беларусі пастаянна ўздзейнічаюць глыбінныя карпацкія землетрасенні. Многія жыхары рэспублікі памятаюць зямныя штуршкі, якія здарыліся 4 сакавіка 1977 года і 31 жніўня 1986 года. У памяці людзей старэйшага ўзросту захаваліся ўспаміны пра землетрасенне 10 лістапада 1940 года. Яно было больш моцнае, чым тое, што адбылося ў 1977-м, і ў пяць разоў мацнейшае, чым у 1986 годзе. Усе тры землетрасенні — вынік разрадкі велізарных падземных сіл, якія канцэнтруюцца ў гарах Уранча, што размешчаны ў Румыніі, у месцы найбольш крутога выгібу карпацкага горнага ланцуга. Хвалі іх распаўсюджваюцца на вялікія адлегласці, выклікаючы на сваім шляху моцныя ўзрушэнні зямной паверхні. Дарэчы, землетрасенне 1977 года выклікала вялікія разбурэнні і чалавечыя ахвяры ў Румыніі, крыху меншыя ў Балгарыі, Венгрыі. А зямное хваляванне 1986 года накіравала свой галоўны ўдар на тэрыторыю Малдаўскай ССР. І тут былі вялікія разбурэнні і ахвяры. Беларусі яны сур'ёзнага ўрону не нанеслі, але ж на многіх шматпавярховых будынках засталіся трэшчыны, падалі тынкоўка, пліткі і іншыя будаўнічыя дэталі.

**— А ЦІ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ АРХІЎНЫЯ ДАНЫЯ АБ ТЫМ, ШТО ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ КАРПАЦКІЯ ЗЕМЛЕТРАСЕННІ ВЫКЛІКАЛІ РАЗБУРЭННІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ?**

— Да сённяшняга дня не было выяўлена якіх-небудзь архіўных сведчанняў гэтага. Заўважана, што ў раёне Уранча (Карпаты) кожнае стагоддзе адбываецца да трох разбуральных хваляванняў зямлі, якія распаўсюджваюцца на вялікія адлегласці.

Акрамя карпацкіх на паўночныя раёны рэспублікі могуць уздзейнічаць і землетрасенні, якія здараюцца ў Скандынавіі.

Мы павінны быць гатовымі да магчымых землетрасенняў і гатовымі з улікам таго, што паверхавасць нашых гарадоў расце, узводзяць будынкі так званай павышанай адказнасці: цеплавыя і атамныя электрастанцыі, хімічныя заводы, гідразбудаванні, метро, шахты і іншыя.

**— ЯКАЯ ЎЗАЕМАСУВЯЗЬ ІСНУЕ ПАМІЖ ВУЧОНЫМІ-ГЕОЛАГАМІ І БУДАЎНІКАМІ РЭСПУБЛІКІ?**

На гэта пытанне адказаў вядучы геафізік Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР **А. БАБАРЫКІН:**

— Па-першае, у такім вялікім рэгіёне, як Прыбалтыка, Беларусь і захад РСФСР, няма спецыялізаванага сейсмалагічнага падраздзялення. Ёсць толькі сейсмічныя станцыі, якія выконваюць выключна рэгістрацыйную функцыю — адзначаюць наяўнасць таго або іншага землетрасення. Усе яны адносяцца да доследнай партыі нашага інстытута. Але мы на ўласным энтузіязме склалі для тэрыторыі Беларусі, рэспублік Прыбалтыкі і захаду РСФСР схему магчымай бальнасці землетрасенняў, якую перадалі ў Дзяржбуд СССР. Яна павінна ўлічвацца пры выбары месцаў пляцоўкі будаўніцтва найбольш адказных аб'ектаў накшталт атамных станцый.

**— ТАКІМ ЧЫНАМ, БУДАЎНІКІ ПАПЯРЭДЖАНЫ АБ ТЫМ, ДЗЕ ЛЕПШ БУДАВАЦЬ І ЯК!**

— Толькі па асабліва важных аб'ектах. Па жыллю і іншых такой схемы пакуль што няма. Яна можа быць складзена (як і наогул уся работа тут пастаўлена на больш сур'ёзную аснову) толькі тады, калі будзе арганізавана спецыяльнае навуковае падраздзяленне пры інстытуце, якое б займалася гэтымі пытаннямі.

**— ЯКІЯ НАЙБОЛЬШ СЕЙСМІЧНА ЎСТОЙЛІВЫЯ БУДЫНКІ?**

— Драўляныя. У асобных выпадках, калі пабудаваны якасна, яны могуць вытрымаць землетрасенне нават да 12 балаў. Цагляныя менш сейсмастойкія. Таму, думаецца, не варта захапляцца шматпавярховасцю будаўніцтва, асабліва калі яно вядзецца з кладкай у паўтары цагліны.

*МІЖРЭСПУБЛІКАНСКІЯ СУВЯЗІ: УВОЗ І ВЫВАЗ ТАВАРАЎ*

# НА ПРЫНЦЫПАХ ПАРТНЁРСТВА

**Ва ўмовах ўвядзення з 1 студзеня 1990-га года ў рэспубліцы рэгіянальнага гаспадарчага разліку ўсё часцей у размовах і дыскусіях узнікае пытанне справядлівага, узаемавыгаднага тавараабмену на лініях рэспубліка — цэнтр і рэспубліка — рэспубліка. Калі меркаваць па паведамленнях у сродках масавай інфармацыі, гэтая тэма стала хвалюючай практычна ва ўсіх рэгіёнах СССР. Нават на першым З'ездзе Саветаў дэпутаты не абмінулі яе. Тады абмеркаванне выклікала цэлы шквал эмоцый. Пошук адказу на пытанне, якое на абывацельскім узроўні гучыць: «Хто каго корміць?», іншы раз набывае вельмі востры характар. У сувязі з актуальнасцю праблемы для сучасных сацыяльна-грамадскіх працэсаў у краіне наш карэспандэнт Галіна УЛІЦЁНАК узяла інтэрв'ю ў начальніка ўпраўлення гандлю Дзяржплана БССР Уладзіміра ДЗЕМ'ЯНОВІЧА.**

*— Уладзімір Пятровіч, якія тавары народнага спажывання Беларусь увозіць і што вывозіць за свае межы?*

— Пачнём з найбольш балючага для некаторых з нашых суграмадзян — з вывазу. Усесаюзны рынак атрымлівае з Беларусі прадукцыю лёгкай прамысловасці — абутак, трыкатаж, швейныя, панчошна-шкарпэтачныя вырабы. Мы пастаўляем Саюзу і прадукты харчавання: галоўным чынам мясапрадукцыю, малако, кандытарскія вырабы. Да пералічанага, пэўна, трэба яшчэ дадаць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, халадзільнікі...

Што ж атрымліваем узамен? Вялікую групу культурна-бытавых і гаспадарчых тавараў, пачынаючы з легкавых аўтамабіляў і канчаючы разнастайным інструментам. Таксама хіміка-маскатэльныя тавары, сыравіну для кандытарскай прамысловасці за выключэннем мукі (цукар, напаўняльнікі).

*— Як жа суадносяцца паміж сабой увоз-вываз?*

— Па групе нехарчовых тавараў у нас існуе перавышэнне вывазу над увозам прыкладна на 2 мільярды рублёў. Але тут не ўлічваецца некаторая сыравіна (на асобныя віды тканін), скура, футра.

Зараз у рэспубліцы склалася тэндэнцыя да скарачэння вывазу. З 1985 года па нехарчовай групе ён знізіўся на 5 працэнтаў. І сёння ў сувязі з пераходам на рэгіянальны гасразлік кіраўніцтва Беларусі паставіла пытанне наступным чынам: прыняць за базавы сёлетні вываз і ў далейшым не пераступаць гэту мяжу ў бок павелічэння.

*— Але ў нас у рэспубліцы вельмі многа прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання, чыя прадукцыя належыць у першую чаргу нейкаму саюзнаму міністэрству ці ведамству. Як мяркуецца паступаць у такіх выпадках?*

— Калі паглядзець на лічбы, атрымліваецца наступнае: за тры гады бягучай пяцігодкі аб'ём вытворчасці тавараў народнага спажывання павялічыўся на 22 працэнты. А рэгіянальныя фонды толькі на 15. Чаму так атрымалася? Бо ў нас вельмі многа прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. Таму мы патрабуем пакідаць у рэспубліцы ўвесь прырост. І ёсць падставы спадзявацца, што гэтае пытанне будзе вырашана станоўча.

*— Вы сказалі, што цяпер існуе тэндэнцыя да скарачэння вывазу нехарчовых тавараў. Пэўна, мяняецца і структура гэтых паставак?*

— Так. Мы рэзка зніжаем вываз тых тавараў, якіх не хапае самім. Напрыклад, г  баў лёгкай прамысловасці, аса  а абутку. З наступнага года гэтая галіна пераходзіць толькі ў рэспубліканскае падпарадкаванне, што павінна станоўча адбіцца на магчымасцях рэспубліканскага рынку.

З 1990-га года значна паменшае вываз мяса, малака, яек. Гэта непасрэдным чынам звязана з чарнобыльскай бядой. Справа ў тым, што раней на дзяржаўным забеспячэнні ў тых раёнах былі толькі сельскія дзіцячыя садзікі, школы, бальніцы. Лічылася, што сельскае насельніцтва павінна мець уласную падсобную гаспадарку, з якой і атрымае прадукты. Пра астатніх клапацілася спажыўкааперацыя. Зараз жа мы бяром на сябе ўсю гэтую зону, бо выпрацоўваць на месцы чыстую прадукцыю немагчыма. Вось і трэба павялічваць нашы фонды. Такім чынам у наступным годзе мы паставім у саюзны фонд менш на 72 тысячы тон мяса і на 362 тысячы тон малака.

З 1990-года наогул мяняюцца ўзаемаадносіны рэспублікі з саюзнымі органамі. Калі раней Міністэрства гандлю СССР выдзяляла рэспубліцы фонды больш чым па 200 відах, то зараз толькі па 14 найменнях тавараў цэнтралізавана складаюцца планы размеркавання, напрыклад, на тэлевізары, халадзільнікі, шпалеры, веласіпеды, матацыклы, некаторыя іншыя. Усё астатняе закупляецца на аптовых кірмашах. Але варта сказаць, што ёсць яшчэ 116 пазіцый, па якіх даюцца так званыя рэкамендацыі, каб не зніжаць ранейшыя пастаўкі.

Сёння існуе таксама пэўная група тавараў, вываз якіх узгадняецца з Дзяржпланам рэспублікі. Паралельна для выпуску гэтых вырабаў увозіцца неабходная колькасць сыравіны. Атрымліваецца нешта накшталт дзяржаўнага заказу, забяс  нага, як гэта прынята, і адпаве,  лі фондамі, тычыцца гэта ў асноўным лёгкай прамысловасці. Але зноў падкрэслю: сам аб'ём вывазу не павялічваецца.

*— А як складваюцца ўзаемаадносіны з цэнтрам, ці не «ціsне» ён на рэспубліканскія органы кіравання?*

— Ведаеце, сёння на нас не столькі ўплывае цэнтр, колькі самі прадпрыемствы, якія атрымалі права самастойна рэалізоўваць частку сваёй прадукцыі. І яны нярэдка прапануюць яе не свайму гандлю, а лічаць больш выгадным вывезці з рэспублікі, нават і за мяжу, дзе попытам карыстаюцца наш крышталь, пасуда, тканіны... Але маё асабістае меркаванне: трэба ў першую чаргу максімальна працаваць на свой унутраны рынак.

Што тычыцца новых форм міжрэспубліканскіх сувязей, то тут распрацоўваецца канцэпцыя міжсаюзнага сумеснага прадпрыемства з «сыравіннымі» рэспублікамі, якія маюць таксама і шмат свабодных рук. Мы, напрыклад, забяспечваем такую вытворчасць абсталяваннем, спецыялістамі, другі бок — сыравінай і рабочымі.

*— Дарэчы, які баланс увозу-вывазу паміж рэспублікамі ў цэлым?*

— У нас у Саюзе толькі ў частцы рэспублік вываз перавышае ўвоз. Сярод іх, як я ўжо сказаў, і Беларусь. Спіс іх будзе наступны: Латвія, Эстонія, Арменія, Беларусь, Украіна, Малдавія, Літва.

*— Уладзімір Пятровіч, увядзенне рэгіянальнага, рэспубліканскага гаспадарчага разліку і самафінансавання, мяркуецца, усё расставіць па сваіх месцах. І кожная рэспубліка спадзяецца, што вось тады ўжо прылаўкі яе магазінаў пабагацеюць. Але спецыялісты ўсё часцей папярэджваюць: не трэба кідацца ў эйфарыю, лёгкага жыцця не чакайце. Як вы мяркуеце, хто акажацца ў больш складаным становішчы: мы ці «сыравінныя» рэгіёны?*

— Мне здаецца, пэўныя цяжкасці чакаюць усіх. Але разам з тым спадзяюся, што Беларусь будзе «на кані». Усё ж такі ў нас і кваліфікаваныя кадры, і навуковы патэнцыял. А гэта значная база для далейшага развіцця.

ЭТНАГРАФІЧНЫЯ НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА

# КАРАНІ

(Працяг. Пачатак у № 38).

Каляжанка Марыі Пятроўны дадала:

— Пэўна, вы адчулі, якая повязь між намі. Паміж мінулым і сённяшнім...

— Карані! — падтрымала яе Гарупа. — Яны непарыўныя з усім родным, не даюць чалавеку перакаці-полем стаць...

Не згледзелі, як апынуліся на зямлі суседзяў. Яна нічым не адрозніваецца ад зямлі беларускай. Такія ж сосны, такія ж бярозы, такія ж кветкі абапал шасейкі. Як і людзі з іх мілагучным палескім вымаўленнем...

— Прыязджайце да нас!

— Не! — запярэчыла каляжанцы Марыя Пятроўна. — Калі ўжо ехаць, то да нас. Ну хаця б у Моталь, дзе Балюк старшынёю. Унікальная вёска! Гісторыю мае багатую, і, галоўнае, людзі там цікавыя.

II

І вось я ў Моталі.

Адчуванне такое, што не ў вёску трапіў, а ў раённы цэнтр. Ускрай плошчы падымаюцца сучасныя камяніцы — Дом культуры, універмаг, кінатэатр.. Адсюль веерам расходзяцца вуліцы. Яны забудаваны дамкамі надзіва акуратнымі. Многія вуліцы прастуюць да возера, што на самай прыгожай рацэ Палесся — Ясельдзе. У вярхоўі, у Пружанскім і Бярозаўскім раёнах, раку выпрасталі, ператварылі ў сцёкавую канаву, а тут, у ваколіцах Моталя, яна ў сваіх берагах, цешыць вока першароднасцю. Чыя ў тым заслуга? Яшчэ тады, на Дні вызвалення, Балюк растлумачыў:

— А мы адпрэчылі ўвішных меліяратараў, якія толькі асушалі зямлю, стварылі свой меліяратыўны атрад. У выніку ўратавалі ці не дваццаць кіламетраў ракі, што знаходзіцца на тэрыторыі калгаса, стварылі нямала штучных азярын, добраўпарадкавалі сотні гектараў зямлі. Раней, каб трапіць на поле, што за якіх пяць-сем кіламетраў ад вёскі, даводзілася і шмат часу патраціць, і натурзацца з тэхнікай. Сёння туды вядуць добрыя дарогі. Будавалі самі. Цяпер іх звыш 250 кіламетраў. Больша  — гравійныя, але ёсць і  льтаваныя.



Уладзімір Іванавіч у той дзень сказаў і такое:

— Наш селянін жыве не хлебам адзіным. У вольную часіну або ў грыбочкі сходзіць, або з вудаю пасядзіць, або выступленні артыстаў паглядзіць... І багацее душою...

Слухаў старшыню калгаса і думаў: усё гэта — вынік таго, што мотальскі селянін стаў сапраўдным гаспадаром свае зямлі. Калгас даўно перайшоў на поўны гаспадарчы разлік, і цяпер на яго рахунку ажно восем мільёнаў свабодных грошай. Шмат аб чым гаворыць і такі факт: толькі на ашчадных кніжках маталяне маюць звыш пятнаццаці мільёнаў рублёў. Які яшчэ калгас, якая вёска Палесся пахваліцца такім?

У напрамку Іванава ішлі грузавікі, праносіліся легкавушкі, пралятаЛі матацыклы. Тратуарам, прыцярушаным снегам, паважна крочылі пажылыя людзі, табункамі прабягалі дзеці. А мне ўспаміналася некалі ўчутае, некалі чытанае пра Моталь, яго тубыльцаў — людзей мужных і працавітых.

Вёска Моталь — адна з самых старажытных у Беларусі. Да нас дайшла легенда, што некалі на беразе Ясельды было паселішча — Прохаў. Яго жыхары займаліся рыбалоўствам, паляваннем, бортніцтвам, жывёлагадоўляй, земляробствам. Але татара-мангольскія заваёўнікі разрбавалі маёмасць людзей, вынішчылі жыхароў Прохава, а паселішча спалілі. З таго часу месца тое лічылася клятым. І толькі праз доўгія гады зноў тут пасяліўся чалавек. Аднак не на старым месцы, а паблізу, на скрыжаванні бойкіх дарог. Як сведчыць тая ж легенда, напачатку з'явіўся карчмар Мотл. Затым сюды прыбіліся некалькі збеглых сялян, той-сёй з рамеснага люду. Новае паселішча расло. Ад імя карчмара атрымала яно і сваю назву. Але першае літаратурнае



ўпамінанне пра Моталь адносіцца да пачатку XV стагоддзя.

Паколькі маталяне мелі невялікія зямельныя надзелы, то многія, асабліва маладыя і дужыя, наймаліся да купцоў лесарубамі, плытагонамі ці бурлакамі. Сплаўлялі лес па Ясельдзе, Прыпяці і Дняпры — у Чорнае мора; па Днепра-Бугскім канале, Мухаўцу, Заходнім Бугу і Вісле — у горад Гданьск, што на Балтыцы; па канале Агінскага, Шчары і Нёмане — у нямецкі порт Кёнігсберг. Асноўная ж маса маламельцаў займалася рамёствамі. Тутэйшыя краўцы, шаўцы, кавалі, цеслі, ткаллі, сталяры, гарбары былі вядомы па ўсім Палессі.

**Яраслаў ПАРХУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Моталь. Гандлёвы цэнтр і Дом культуры; вяртанне з пашы.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

(Працяг будзе).

# SINDROME DE RECHAZO

## EL PROBLEMA DE LA COEXISTENCIA DE LA CULTURA

Estonia, al igual que todas las repúblicas soviéticas del Báltico, está viviendo ahora tiempos difíciles. Creo que en gran medida sus dificultades arrancan de nuestro pasado no muy lejano, que continúa existiendo en nuestros tiempos de perestroika. Hay quienes piensan que los dolorosos problemas nacionales salieron a la superficie tan sólo al promulgarse las ya conocidas leyes acerca del idioma. Pero el idioma ha sido tan sólo un pretexto, pero no la causa. Tanto menos, la causa principal.

Según creo, ésta radica en otro problema nada menos o, tal vez, aún más importante.

Al parecer, ¿qué tiene de malo si los organismos legislativos de la república, preocupados por la amenaza de quedar menguada la cultura nacional y por el proceso de reducción de la esfera del uso de su idioma nacional, toman medidas que responden a los intereses de la mayoría? ¿Cómo deben tomarlo las minorías étnicas que habitan en la república? Bien podemos imaginar el desarrollo de una situación semejante en cualquiera de los Estados democráticos, donde hace mucho coexisten sin conflictos notables la población aborigen y todo tipo de minorías étnicas. Pero en nuestro país ocurre algo insólito: las minorías étnicas en las repúblicas, que se muestran bastante indiferentes hacia la principal cultura nacional, en ciertos momentos emprenden intentos de influir de manera destructiva en el estado de ésta. Su actitud hacia todo el idioma y la cultura propios me parece natural. Lo que no llego a comprender son las razones de su intolerancia hacia la cultura autóctona de la república. Resulta imposible comprender su rechazo de cualquier intento de la nacionalidad autóctona de reforzar, por todos los medios, las posiciones de su idioma y proteger la integridad de su cultura nacional. ¿A qué se debe semejante rechazo a las medidas y actividades que, a pesar de ser inaceptables para las minorías, son tan elementales y naturales?

¿O es que las legítimas medidas de la nacionalidad principal hieren los intereses y las ambiciones de la minoría? ¿Acaso se atenta contra su existencia de muchos años en un medio étnico, que, sin ser hostil, no ha llegado a convertirse, según parece, en el medio étnico parejo? ¿O, quizás, ello se deba a la falta de deseo de enfrentarse con el problema adicional de aprender un idioma desconocido? ¿O es que ello acaba con la cómoda inercia lingüística, que se ha hecho habitual en muchos decenios? Si es así, ¿cómo podríamos calificar tal fenómeno, hablando en el lenguaje corriente, carente de ingeniosas generalizaciones filosóficas?

Al fin y al cabo, es posible no aprender el idioma y seguir viviendo como antes, sin hacerle caso a la gente, con cuya tierra está vinculado el futuro propio y el de sus hijos. Creo que las últimas actas legislativas en Estonia, por ejemplo, admiten tal posibilidad. Pero, en tal caso ¿no sería inmoral pretender a dirigir a esa gente, dirigir su actividad productiva, imponerle los gustos y creencias propias?

Al parecer, el censo de la vida sedentaria ha dejado perplejas a muchas personas, asustándolas con su novedad. Sin embargo, vale la pena pensar mejor: ¿será realmente este censo tan inaceptable, como lo creen muchos de los que aprenden ahora la democracia, pero que aún se hallan en el grado preparatorio? A un nivel más bajo, o, diría yo, a un nivel elemental, ese requisito "paradójico" nada tiene de extraño. A nadie sorprende que al elegirse un presidente de una granja colectiva se plantea necesariamente la condición de que el candidato resida en el territorio de tal granja. Y nos parece correcto que en tales elecciones participen sólo los miembros de la granja colectiva, y no todos los habitantes de la vecindad. Uno de los más horribles engendros del sistema administrativo de orden y mando es la monstruosa facilidad (insólita en cualquier otro país) con que son trasladados en nuestro país diferentes grupos de población y de cuadros dirigentes. En la biografía de cualquier alto funcionario del partido o de los Soviets, que haya "trabajado" bastante tiempo, uno encontrará decenas de cargos y lugares de trabajo. En muchos casos el cargo siguiente nada tiene que ver con el anterior. Desde luego, ello influye de manera negativa en el trabajo, que el deja con la misma facilidad con que comienza un trabajo nuevo. Lo mismo podría decirse de los trabajadores sencillos, cuyas libretas de trabajo están repletas de decenas de inscripciones y cuyos pasaportes llevan un montón de cuños de empadronamiento. Basta con echarle un vistazo breve a la lista del Soviet Supremo de cualquier república para ver la gran cantidad de representantes de organismos superiores y de departamentos centrales, toda esa clase de "generales" moscovitas, que suelen venir a la república un par de veces al año sólo para registrarse, votar por decisiones tomadas de antemano y marcharse de inmediato. Su elección como diputados está prevista ya en el cargo de nomenclatura que ellos ocupan. En su vida de dirigentes se trasladan por un sinnúmero de comarcas y regiones, sin el mínimo deseo ni posibilidad de llegar al fondo de los problemas locales. ¿Y para qué intentarlo, cuando dentro de unos pocos años ellos estarán "funcionando" a miles de kilómetros de este lugar? Pero para estar bien enterado de un asunto hay que tener interés en éste, hay que vivir en el lugar. "Nuestra vida debe ser sedentaria" —remarcó en cierta ocasión, de manera muy sabia y precisa, el académico D. Lijachov, un auténtico intelectual ruso.

Es por eso que el censo de vida sedentaria, a pesar de parecer extraño, sirve indudablemente a los intereses del pueblo y es un importante recurso en la realización del poder popular, en la democratización de la vida social. La promulgación de tal censo es un acto razonable y democrático, digno de ser difundido en el sistema electoral de todo el país. Probablemente, ello concierne en primer lugar a las elecciones a los organismos del poder local.

Nuestro pasado estalinista y brezhnevista ha desarrollado en nosotros el síndrome de rechazo no sólo a todo lo realmente absurdo y hostil, sino también a todo lo razonable, pero unevo y extraño. Tememos, al producirse cambios nuevos y extraños, otras personas vivan mejor que nosotros. En especial, ello concierne a las personas que no son del todo iguales a nosotros por el idioma y la manera de vivr, que tienen una Ley Electoral más perfeccionada y más democrática.

**Vasil BIKOV,**
*diputado del pueblo de la URSS Minsk*

# El economista y la independencia

Vamos subiendo los escalones de la civilización. Uno de tales escalones fue la aparición en el "equipo" del premier del grupo encargado de elaborar la estrategia económica. Se trata de la Comisión Estatal del Consejo de Ministros de la URSS para la Reforma Económica. Este grupo incluye a funcionarios del Consejo de Ministros, ministros, empresarios y científicos.

En realidad, se trata de otro escalón. Antes había algo parecido, pero a nivel inferior y con el mínimo de derechos. Ahora las decisiones de la Comisión Estatal son igualadas a las órdenes del gobierno. A esta Comisión están subordinados el Banco Estatal el Comité Estatal de Precios, el Comité Estatal para el Trabajo y el Comité Estatal de Estadística. Además, la Comisión tiene un derecho muy importante en las condiciones de la perestroika el de anular las actas normativas departamentales (bien sabemos cuántas se emiten) que tergiversen el espíritu y la letra de la reforma.

El problema número uno y la principal pregunta son: ¿cómo será el nuevo modelo de la economía? Además, ¿cómo ha de ser el mecanismo de planificación en el período de paso a la economía de mercado? Son tareas realmente estratégicas.

Me parece lamentable que la Comisión se haya instituido demasiado tarde. Debido a la situación crítica actual en la economía, la Comisión se ve obligada a resolver un sinfín de problemas urgentes, convirtiéndose en una especie de "equipo de emergencia". Con ello resulta aplazada la solución de los problemas globales. Pero como los problemas generales quedan sin solucionar, uno los enfrenta a cada paso mientras procura resolver los problemas de rutina.

Una de las cuestiones concretas, estudiadas en las primeras sesiones de la Comisión, fue el reglamento acerca de los ministerios industriales. ¿Es una cuestión importante? ¡Desde luego! Pero hasta ahora no se ha logrado llegar a un acuerdo. Es que el propio concepto de mecanismo económico, aprobado en 1987, requiere serias puntualizaciones. Por ejemplo, en aquel entonces ni se mencionaba el problema de la propiedad (salvo el caso de las cooperativas). Pero hoy en día es evidente que sin solucionarlo no es posible avanzar en ninguna dirección. Naturalmente, queda "suspendida en el aire" la cuestión de las funciones de los ministerios. Otro ejemplo es el problema de los precios: hace un par de años la reforma de los precios se consideraba una cosa casi decidida, pero ahora, como todos sabemos, se ha preferido postergar esa reforma. Ya después de haberse decidido aplazar la reforma de los precios, los mineros plantearon el problema de los precios del carbón. También los campesinos esperan otros precios de compra de los [illegible]les. ¿Habrá que abordar de nuevo el problema de los precios? Pero ello resulta imposible sin la reforma del sistema de impuestos. Un problema siempre va acompañado por otro, y es muy difícil componer un sistema perfecto.

Desde luego, la Comisión no actúa en el vacío. Ya comenzaron a trabajar los comités y las comisiones del Soviet Supremo.

Ello significa tanto la unión de esfuerzos, como la alternativa necesaria.

Creo que es la primera vez que los estudiosos de la economía integran un aparato de tal calidad y a tal nivel. Me refiero no sólo al académico Abalkin, que encabeza la Comisión Estatal, sino también a otros colegas. Ahora no sólo integramos el aparato, sino que recibimos otro status de responsabilidad. Lo mismo concierne a los diputados economistas. Jamás nuestra ciencia trabajó en semejante régimen. Antes siempre había cierta distancia inevitable entre nuestras investigaciones y lo que ocurría en la economía real. O sea, todo era como por el otro lado del espejo. Ahora la situación será diferente. En la actualidad no me siento una "funcionaria del aparato administrativo" y sigo trabajando en mi instituto; pero la situación ya es otra.

No obstante, estoy convencida de que la presencia de economistas en este nuevo organismo podrá surtir efecto siempre que cada miembro de la Comisión Estatal sea realmente independiente.

Cabe decir que ya en la primera reunión el académico Abalkin subrayó que no había limitación alguna en la exposición de los puntos de vista, por más críticos y cardinales que éstos fueran. Tampoco hay restricciones en lo referente a los contactos con la prensa. En otras palabras, en ninguno de los casos la Comisión debe convertirse en un "comité secreto", donde los problemas de vital importancia para la gente se resuelvan a puertas cerradas.

**Tatiana KORIAGUINA,**
*doctora en Economía, miembro de la Comisión Estatal del Consejo de Ministros de la URSS para la Reforma Económica*



La fuente de inspiración de Kastus Kachan es su natal Novogrudok. Aquí pasó su infancia y juventud, aquí vive la gente que tanto quiere, los personajes de sus obras. Ocupan un lugar especial en su obra los paisajes. En sus lienzos hay prados floridos, el desborde primaveral del Neman y las apacibles callejuelas de las aldeas. El pintor refleja en sus cuadros los lugares relacionados con los acontecimientos históricos más importantes que tuvieron lugar en la región. Comprender y expresar los lazos espirituales de nuestros días con el pasado, penetrar en la esencia de los fenómenos y mover al espectador a reflexionar sobre ello-estos problemas los resuelve Kastus Kachan en su creación.

En las fotos: K. Kachan en el colmenar del apicultor A. Miasnikievich. Muchos de sus cuadros son inspirados por encuentros de esta clase; el cuadro del pintor "Provincia".

Foto: A. NIKOLAEV.



## EXPONE RUFINO TAMAYO

Esta exposición del gran maestro mexicano Rufino Tamayo, que acaba de inaugurarse en Moscú, constituye uno de los puntos culminantes de nuestro intercambio cultural, que son 65 años de las relaciones entre México y la URSS y que ha alcanzado un nivel de primera calidad. A lo largo de nuestras historias, artistas e intelectuales de México y la URSS, en su búsqueda de nuevos mundos, han tenido momentos genuinos de encuentro y comunicación. La visita de Tamayo recoge y proyecta para tiempos futuros esta tradición. La presencia de Tamayo hoy en la vida cultural de la Union Soviética, ensanchada por la perestroika, es altamente significativa.

**Juan José BREMER MARTINO,**
*Embajador de México en la URSS*

Redactor de la "Página en español" Demetrio OKULIK.

вабнай і менш манатоннай. Сучасныя прапановы С. Чарніцкага і па планіровачных, і інтэр'ерных рашэннях кватэр.

Прагледваюцца зрухі ў лепшы бок і ў планіроўцы мікрараёнаў. Архітэктары з Гродна прапанавалі забудоўваць раён Зарніца пераважна малапавярховымі жылымі дамамі (ад двух да пяці паверхаў). Падобныя ідэі і ў праекце забудовы мікрараёна Малінаўка-9 Мінска. Праект гэты не ўдзельнічаў у аглядзе, але напомніць аб ім варта, таму што ён з'яўляецца яшчэ адным пацвярджэннем таго, што працэс гуманізацыі жылога асяроддзя (праектаванне сумаштабных чалавеку аб'ектаў) набірае ў рэспубліцы сілу.

У лік лепшых работ агляду трапілі праект спорткомплексу для Брэста архітэктара М. Пушкова і праект лабараторнага комплексу Навукова-даследчага інстытута ядзерных праблем Белдзяржуніверсітэта групы архітэктараў з Белдзяржпраекта.

Некалькі праектаў, хаця і не ўвайшлі ў дзесятку лепшых, аказаліся ў зоне павышанай увагі прафесіяналаў. Гэта Дом ведаў і навучальна-спартыўны корпус інстытута фізкультуры ў Мінску, Дом культуры для вёскі Сітнікі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, міжкалгасны санаторый для Магілёўшчыны.

Большасць архітэктараў, якія прысутнічалі на грамадскім абмеркаванні прадстаўленых на агляд работ, згадзіліся з тым, што ў першую чаргу трэба разглядаць праекты не ўчарашняга дня, якія, магчыма, прафесіянальныя, добрыя, але—паўтарэнне пройдзенага, а прапановы наватараў—спрэчныя, супярэчлівыя, але якія ўтрымліваюць перспектыўныя ідэі. Толькі тады бетонная немата правільных паралелепіпедаў будзе выцеснена гармоніяй форм эмацыянальнай архітэктуры.

Нібыта водгукам на гэта пажаданне з'явілася выстаўка работ маладых архітэктараў рэспублікі, якая адбылася ў канцы мінулага года ў Мінску. Не будзе перабольшаннем, калі скажам, што за апошнія дваццаць гадоў у архітэктурным жыцці рэспублікі падобнага не назіралася. Агляды творчасці, вядома ж, праводзіліся. Але каб маладым давалася магчымасць выказацца без якіх-небудзь абмежаванняў, такога не было. І ўдзельнікі гэтую магчымасць скарысталі ў поўнай меры: яны выставілі першыя рэальныя праекты, пазнаёмілі публіку са сваімі памкненнямі і марамі—канцэптуальнымі архітэктурнымі ідэямі, са сваімі захапленнямі—рысункамі, вынаходствамі. Галоўнае ж, яны сталі ініцыятарамі карэннага абнаўлення архітэктурных форм.

У чым заключаецца гэта новае, разбірацца прафесіяналам. Ясна адно: маладыя не хочуць прытрымлівацца стэрэатыпаў, рашуча адхіляюць усякія прэтэнзіі на «адзіную» (афіцыйную) архітэктуру. Ставячыся да сваёй работы, магчыма, менш прагматычна, чым папярэдняе пакаленне, яны ўсё больш засяроджваюцца на мастацкім баку прафесіі. У іх работах можна было прыкмеціць імкненне да вобразнасці, яснасці і выразнасці архітэктурнай мовы, арыентацыю на традыцыйныя, архетыпы, якія вытрымалі шматвяковую праверку, зварот да нацыянальных крыніц будаўнічай культуры.



Гран-пры агляду-конкурсу быў уручаны архітэктарам з Мінскграмадзянпраекта Іосіфу Вайцяховічу і Аляксандру Пратасевічу за праектную прапанову рэабілітацыі цэнтра малога горада. Яны выбралі горад Глыбокае Віцебскай вобласці. Выбралі не выпадкова: Вайцяховіч нарадзіўся ў ім і правёў там дзяцінства. І патрэбы горада ён ведаў дасканала. Перш за ўсё яны хацелі зрабіць цэнтр прыгожым і прэстыжным у дзелавым і грамадска-культурным плане. Таму будынкі цэнтра аб'ядналі ў ансамбль. Гэта якраз тое, чаго так не хапае нашым раённым гарадкам. У сістэму цэнтральнай часткі старой забудовы яны тактоўна ўпісалі малапавярховыя жылыя дамы. У кампазіцыі цэнтра яны ўдала скарысталі невялікую рачулку, якая перасякае рыначную плошчу і ўпадае ў возера, размешчанае непадалёку. Пераходныя масткі цераз рачулку ажывяць гарадскі пейзаж і ўнясуць элемент навізны ў агульную панараму. Праект маладыя архітэктары выканалі бясплатна, у падарунак гораду.

Валерый Данілаў і Уладзімір Талочка выступілі з арыгінальнай ідэяй ландшафтна-экалагічнага пераўтварэння гарадскога асяроддзя і прадставілі прыклад яго практычнай рэалізацыі—праект паркава-рэкрэацыйнага комплексу «Волатава». На намыўной тэрыторыі плошчай 110 гектараў у пойме ракі Сож яны прапаноўваюць стварыць месца адпачынку насельніцтва навакольных мясцін. Прычым парк гэты павінен стаць арганічнай часткай буйнейшага ў Гомелі жылога масіву, які будуецца на намыўных землях.

Мы не будзем называць імёны ўсіх маладых архітэктараў, адзначаных дыпломамі рэспубліканскага агляду: яны пакуль шырокаму колу невядомы. Аднак адзначым, што на аглядзе былі прадэманстраваны цікавыя падыходы да архітэктуры грамадскіх будынкаў—спроба рэалізаваць прынцып постмадэрнізму ў інтэр'ерах, творчае асэнсаванне традыцый авангарда дваццатых гадоў, імкненне да дынамізму форм і прасторы. Адным словам, можна канстатаваць актыўны падыход да архітэктуры, які раней не заахвочваўся.

Агляд маладых архітэктурных дараванняў удаўся. Кампліментаў у свой адрас яны пачулі нямала. Ці здольны яны вывесці беларускае дойлідства на новы якасны ўзровень, пакажа час. Але шанс праявіць сябе ў іх ёсць. Парукай таму абнаўленне ўсіх грамадскіх інстытутаў Савецкай дзяржавы, перабудова ва ўсіх сферах нашага жыцця.

**Валянцін АКСЁНАЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: праект будынка райвыканкома Цэнтральнага раёна Мінска; шматфункцыянальны грамадскі цэнтр у Глыбокім на Віцебшчыне.**

**КЛАСІКА ЗАЎСЁДЫ СУЧАСНАЯ**

# МЯЦЕЖНЫ ДУХ ДУБРОЎСКАГА

**Майстар экранізацыі рускай класікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР кінарэжысёр Вячаслаў Нікіфараў у студыі «Кадр» кінастудыі «Беларусьфільм» завяршыў вялікую працу над чатырохсерыйным тэлевізійным фільмам і яго кінаэкранным варыянтам «Дуброўскі», пастаўленымі па матывах аднайменнага твора А. Пушкіна. У канцы сёлетняга года абедзве стужкі выходзяць на тэлевізійныя і кінаэкраны краіны. А пакуль у сталіцы нашай рэспублікі праходзяць прэм'еры кінаварыянта экранізацыі карціны, якая мае назву «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі».**

**Тут, мусіць, трэба зрабіць экскурс у мінулае. Справа ў тым, што пушкінскага «Дуброўскага» і раней ставілі ў тэатры і кіно. Ва ўсіх на памяці цудоўная опера Напраўніка, стужка рэжысёра А. Іваноўскага, якая больш чым паўстагоддзя не сыходзіла з экранаў краіны, шматлікія тэатральныя пастаноўкі. Многія людзі старэйшага пакалення добра памятаюць папулярнага акцёра МХАТа Барыса Ліванава ў ролі маладога Дуброўскага, памятаюць і іншых карыфеяў сцэны і экрана ў ролях Траякурава, князя Вярэйскага, Андрэя Гаўрылавіча, бацькі Дуброўскага, Машы, Спіцына і іншых. Але цяперашняе пакаленне фільма 1936 года выпуску не ведае. Да таго ж карціна значна састарэла. У кіно прыйшоў колер, шырокі экран і іншыя тэхнічныя навінкі. Тэлебачанне даставіла стужку непасрэдна ў наш дом. Таму паўстала пытанне аб новай экранізацыі слаўнага твора генія рускай літаратуры Аляксандра Пушкіна.**

**Вялікі гонар і вялікая адказнасць выпалі кінастудыі «Беларусьфільм», якой даручылі экранізаваць аповесць «Дуброўскі».**

**Выбар студыі быў не выпадковы. Некалькі гадоў назад творчы калектыў «Беларусьфільма» ўдала экранізаваў раман І. Тургенева «Бацькі і дзеці». Гэта работа была адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР. І цяпер, калі размова зайшла аб пастаноўцы «Дуброўскага», вырашана было зноў звярнуцца да «групы Нікіфарава», якая зарэкамендавала сябе майстрамі экранізацыі. Над фільмам працавалі амаль усе творчыя работнікі, што прымалі ўдзел у стварэнні тургенеўскіх «Бацькоў і дзяцей»: сцэнарысты Яўген Грыгор'еў і Аскар Нікіч, рэжысёр Вячаслаў Нікіфараў, мастак-пастаноўшчык Уладзімір Дзяменцьеў і іншыя. Зноў на здымачную пляцоўку выйшлі аднадумцы пастаноўшчыка акцёры Уладзімір Самойлаў (Траякураў), Уладзімір Конкін (Шабашкін), Віктар Паўлаў (Спіцын). Разам з такімі вядомымі майстрамі тэатра і кіно, як Кірыл Лаўроў (Дуброўскі-бацька), Анатоль Рамашын (князь Вярэйскі), здымаліся ў фільме маладыя акцёры: Міхаіл Яфрэмаў (Уладзімір Дуброўскі) і Марына Зудзіна (Маша). Як бачыце, акцёрскі ансамбль надзвычайны. Рэжысёру можа пазайздросціць любы пастаноўшчык, які звярнуўся да экранізацыі класікі.**

**Кінафільм здымаўся «па матывах» твора А. Пушкіна. Таму ў карціне шмат адступленняў ад аповесці. Рэжысёрам створана новая версія пушкінскага твора.**

**— Мы хочам паспрачацца з хрэстаматыйным прачытаннем «Дуброўскага», — расказвае пастаноўшчык фільма Вячаслаў Нікіфараў. — Нам жа яшчэ ў школе казалі, што Дуброўскі адмовіўся помсціць тым, хто зганьбаваў яго імя, таму, што быў улюбёны і да таго ж не выспеў для асэнсаванай барацьбы супраць самадзяржаўя. Але нам здаецца, сутнасць у іншым. Уладзімір Дуброўскі вельмі высакародны, каб помсціць злосна і дробна.**

**Суровыя абставіны жыцця аднялі ў Дуброўскага ўсё: бацьку, радавы маёнтак, афіцэрскі гонар, каханне. Але карпатліва абгрунтаваўшы перадумовы, згодна з якімі герой мог і абавязаны быў адпомсціць віноўніку сваіх бед, А. Пушкін прыводзіць яго да немагчымасці зрабіць тое, да чаго, здавалася, вяла логіка сюжэта. Дзе тут прычына такога павароту падзей! Ці толькі ў тым, што аповесць была не дапісана Пушкіным і, такім чынам, можа існаваць версія аб псіхалагічнай нематываванасці ўчынку Дуброўскага!**

**Пастаноўшчыкі фільма адмаўляюць саму такую магчымасць. Геній Пушкіна быў настолькі вялікі, што і ў незавершаным выглядзе аповесць уражвае глыбінёй, яснасцю думкі, вялікім гуманістычным пафасам. Дуброўскі — зусім не ахвяра аўтарскага самавольства. Ён адмовіў сабе ў праве на адплату, расцэньваючы яе як вар'яцтва. Высокая чалавечнасць, «боская» ўзвышанасць натуры, паэтычнасць унутранага стану — вось што вызначыла загадкавы рух душы героя. Перад прэм'ерай у Доме кіно Вячаслаў Нікіфараў, прадстаўляючы свой фільм, сказаў:**

**— Класічныя творы славяцца сваім доўгім жыццём таму, што яны заўсёды злабадзённыя, неабходныя для маральнага выхавання моладзі.**

**Тут рэжысёр застаецца верным сабе. Ён паставіў задачу — наблізіць класіку да сучаснасці, зрабіць яе злабадзённай. Можна смела сказаць, што аўтарам карціны гэта цалкам удалося.**

**Яўген КРУПЕНЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: кадр з фільма «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі». Артыст М. ЯФРЭМАЎ у ролі Уладзіміра Дуброўскага, актрыса М. ЗУДЗІНА ў ролі Машы.**

**Фота аўтара.**



**НАПЯРЭДАДНІ СЕЗОНА**

# ТЭАТРЫ ПАДНІМАЮЦЬ ЗАСЛОНУ

Новы, 70-ты тэатральны сезон неўзабаве адкрые Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы. Напярэдадні гэтай падзеі на Малой сцэне тэатра адбыўся збор трупы.

Размова, якую вялі з калектывам дырэктар тэатра І. Вашкевіч і галоўны рэжысёр В. Раеўскі, была няпростая. Сёння тэатры перажываюць крызіс, і тэатр імя Я. Купалы — не выключэнне. Свае патрабаванні да тэатра прад'яўляюць і працэс адраджэння самасвядомасці беларускай нацыі, і дэмакратызацыя грамадства. Не на апошнім месцы эканамічныя адносіны паміж тэатрамі і дзяржавай, з якімі таксама яшчэ многае няясна. Як у такой сітуацыі ўзяць правільны курс, не памыліцца, праявіць сучасны ўзровень мыслення?

В. Раеўскі лічыць, што не трэба мітусіцца, а лепей звярнуцца да класікі, якая не губляе сучаснае гучанне. На 1990 год у тэатры запланаваны «Тутэйшыя» Я. Купалы ў пастаноўцы М. Пінігіна.

Збор трупы адбыўся таксама і ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага.

Чым жа парадуе гледачоў у новым сезоне Рускі тэатр? Канешне, кан'юнктура (у добрым сэнсе) мяняецца хутка, і зрабіць удалы выбар складана, але здаецца, што калектыў не памыліўся. Практычна ўся трупа ўжо занята на рэпетыцыях спектакля па раману У. Вайновіча «Жыццё і незвычайныя прыгоды салдата Івана Чонкіна», пастаноўку якога ажыццяўляе малады рэжысёр Д. Аляхновіч. Прэм'ера запланавана на снежань.

